У нумары: Грошы скачуць па балоце · Паміж Бурамі няма згоды · Неразумная цёшча і хітры заяц


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 37 (394) | ГОД VIII | 15 ВЕРАСНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР


В. БАРШЧЭЎСКІ

## ГРОШЫ СКАЧУЦЬ ПА БАЛОЦЕ

Вуліца Статкоўскага ў Варшаве не сказаць, каб была вельмі прыгожай. Двух — або трохпавярховыя, старога тыпа, домікі, пры іх агародчыкі замкнутыя драцяной сеткай, надаюць вуліцы маламястачковы выгляд. Вядома, Чэрнякаў — гэта не цэнтр сталіцы. Але трамвай нумар 33, у які мы ўскочылі на Макатове, вязе нас аж да самай вуліцы Статкоўскага. Нас цікавіць нумар 53, побач з якім на шэрай сцяне будынка прыбіта шыльда: «Гадаўляна-ральнічая спулдзельня прадукцыйна». Згодзіцеся, што гэта, усё ж такі, не штодзённая з'ява на сталічнай вуліцы сустрэцца са спулдзельняй прадукцыйнай. А яна існуе ўжо тут шосты год. Прынцыпы працы яе такія ж, як і другіх, так сказаць, тыпова вясковых спулдзельняў прадукцыйных. Члены яе аруць зямлю, вырошчваюць жыта, пшаніцу, ячмень, буракі і другія сельскагаспадарчыя расліны. Гадуюць каровы, свінні, качкі, куры, авечкі, адным словам усё тое, што патрэбнае ў добрым гаспадарстве, што дае даход. Апрача гэтага члены варшаўскай спулдзельні прадукцыйнай займаюцца яшчэ і такімі рэчамі, якіх не сустрэнеш нідзе ў другіх спулдзельнях прадукцыйных.

Яны маюць адну з большых у краіне гадоўлю норак. Менавіта гадоўля гэтых каштоўных футравых звяркоў расславіла варшаўскую спулдзельню далёка за граніцай. Аб ёй ведаюць у Гамбургу, Лондане, Парыжы, Берне і другіх замежных гарадах.

### 3000000 ЗЛОТЫХ ДАХОДУ Ў ГОД

Аб спулдзельні прадукцыйнай гутарым з членам яе праўлення інжынерам Уладзіславам Мазухоўскім. Інжынер Мазухоўскі даўжэйшы час прабываў на Беласточчыне. Яму даволі добра знаёмае і беларускае асяроддзе. Прыняў ён нас ветліва і цёпла, з філіжанкай кавы.

Плошча зямельных угоддзяў спулдзельні невялікая. Усяго не будзе больш як 100 гектараў перанятых ад былога падваршаўскага маёнтку. Спулдзельня налічвае 40 членаў. Абавязкам кожнага з іх перапрацаваць на працягу года ў спулдзельні не менш чым 300 працадзён. За адзін працадзень члены спулдзельні атрымоўваюць пастаянную стаўку — 80 зл. Маёнтак спулдзельні не малы. Яна апрача раслінаводства гадуе 150 свіней, 8.000 качак, 40.000 курэй, статак кароў, ну і ферма норак. Вядома, што самі члены спулдзельні не змаглі б належна абслужыць так багаты жывы інвентар і таму, як звычай, наймаюць сезонных рабочых. Калі хто-небудзь з іх выказваецца дбайнасцю і працавітасцю, можа быць прыняты ў члены спулдзельні.

Некалькі год таму спулдзельня пачала разводзіць гадоўлю норак. Норка — звярок драпежны. Спецыяльна далікатнага корму не патрабуе. З'ядае ўсё. А найлепш ласуецца канінай і адпадкамі з рыбы. Старыя, спрацаваныя коні можна танна купіць на Беласточчыне, а рыбныя адпады прысылаюць з узбярэжжа цэлымі вагонамі за бесцань. Спулдзельня развяла ферму норак да 3.000 штук. Знятая восенню скурка норкі каштуе каля 1400 злотых. Тавар гэты заграніца бярэ нарасхоп. Дзяржава атрымоўвае цэнныя дэвізы, а спулдзельня чысты даход каля 3.000.000 злотых у год.

### ЖАБЫ РОБЯЦЬ КАР'ЕРУ

Калі некалькі год таму Польшчу больш масава пачалі наведваць заходнія турысты, яны былі здзіўлены нашымі абыякавымі адносінамі да... жаб.

— Прадайце нам вашы жабы, — пасыпаліся прапановы ад французскіх, бельгійскіх і швейцарскіх купцоў.

Зялёных жаб (бо толькі аб такіх ідзе рэч) на нашых сенажацях — пропасць. І хоць гэта вельмі карысныя стварэнні, але хопіць іх і для нашых палёў (жабы вылоўліваюць аграмадную колькасць насякомых шкоднікаў) і для заграгічных аматараў.

Цяжка было знайсці толькі спецыялістаў, якія заняліся б лоўляй і высылкай жаб за граніцу. У варшаўскай спулдзельні прадукцыйнай людзі з галовамі. Зрэшты, 15 членаў спулдзельні маюць закончаную вышэйшую адукацыю. Яны ўсебакова абмеркавалі гэтую справу і вырашылі арганізаваць лоўлю жаб. У мінулым годзе спулдзельня выслала ў Францыю 3 тоны жаб, атрымоўваючы за гэта 200 тысяч злотых.

(Працяг на стар. 4)



ПАМОЧНІКІ Фота У. Паўлючук



ФРУКТЫ Фота К. Лес

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## БУРАКАМ шырокая дарога

— Цукровых буракоў у нас, на Беласточчыне, усё яшчэ мала? — звяртаюся да таварыша Аленцкага, галоўнага аграгэхніка цукроўні Саколў, якая сваімі межамі дзейнасці ахоплівае дванаццаць паветаў Беластоцкага ваяводства, а ў тым ліку і паветы з беларускім насельніцтвам.

— Так, вы не памыляецеся. Вось у бягучым годзе да запланаваных плошчы кантрактаваных буракоў не хапіла нам звыш 3000 гектараў. А планавалі мы не так ужо многа — усяго дзесяць з палавінай тысяч гектараў. Сяляне проста сёлета менш закантрактавалі.

— Мо' не аплачваецца селяніну кантрактаваць іх?

— Чаму не аплачваецца? Пры сярэднім ураджаі селянін атрымоўвае звыш 15-ці тысяч злотых чыстага даходу з кожнага гектара. Мала якая расліна прыносіць селяніну такі даход. Для параўнання: жыта пры найвышэйшым, скажам, дваццаціцэнтнеравым ураджаі дае ў найлепшым выпадку толькі трэцюю долю таго даходу.

— Тады, мабыць, умовы кантрактацыі не заахвочваюць сялян да вырошчвання гэтай, як не кажы, капрызнай і паглынаючай шмат часу расліны?

— Умовы, на якіх мы кантрактуем буракі, ніколі не крыўдзілі сялян. А тым больш цяпер, пасля апошняй пастановы Эканамічнага камітэта пры Савеце Міністраў.

— Аб якой менавіта пастанове Вы гаворыце?

— 31 ліпеня г.г. Эканамічны камітэт пры Савеце Міністраў прыняў пастанову аб палепшанні ўмоў вырошчвання і кантрактацыі цукровых буракоў. Паводле гэтай пастановы апрача асноўнай цаны 60 зл за цэнтнер чыстых цукровых буракоў (карэнняў) пастаўшчыку плаціцца: па 70 грошы ад аднаго цэнтнера за кожны кіламетр дарогі, калі селянін уласным транспартам дастаўляе буракі з вёскі на месца скупкі, і па 60 грошы ад аднаго цэнтнера за разгрузку незалежна ад таго, ці разгрузка адбываецца непасрэдна ў вагон, ці на кучу.

Калі б даставілі вы свае буракі датэрмінова, тады прыслугоўвае вам прэмія ад 3-х да 6-ці зл за кожны цэнтнер. Апрача грошай за кожны цэнтнер дастаўленых буракоў атрымоўваеце дарма 50 кг. прасаваных выслодкаў, якія з'яўляюцца дасканалым кормам для жывёлы.

— Каб пасеяць, трэба мець насенне...

— Для тых сялян, якія кантрактуюць цукровыя буракі, насенне дастаўляем па 5 зл. за адзін кілаграм. За 150 зл. можна купіць толькі насення, што хопіць яго на цэлы гектар. Калі буракі не ўзыйдуць, або прападуць і неабходна будзе другі раз іх пасеяць, тады насенне дастаўляем дарма.

(Працяг на стар. 2)

# „Курыная вайна"

Размова тут будзе зусім не аб вайне, у якой змагаюцца паміж сабою курыцы і пеўні. Іншая справа, што гэтыя мілыя і смачныя птушкі сталіся прычынай сапраўднай гаспадарчай вайны паміж дзяржавамі т.зв. заходняга свету. Уласна кажучы, вайна толькі што пачалася і праціўнікі не грэбуюць штораз больш грознымі аргументамі, лаюцца, абвіняюць адзін другога і цяжка зараз здагадацца, які бок (якая старана) пераможа і коштам якіх страт у сваім прэстыжы. А што аб прэстыж тут разыходзіцца, дык аб гэтым нельга і сумнявацца. Пачнем, аднак, усё па парадку.

Было вось як. Некалькі месяцаў таму дзяржавы — члены Еўрапейскага эканамічнага садружаства (Францыя, ФРГ, Італія, Бельгія, Галандыя, Люксембург) вырашылі павысіць пошліну на птушкі, імпартаваныя ў толькі што намі прыгаданую «шасцёрку» з дзяржаў, якія не належаць да Супольнага рынку. Афіцыйна гэтая пастанова была абумоўлена адмоўным сальдам гандлёвага балансу, выступаючым у транзакцыях «шасцёркі» са Злучанымі Штатамі. Сапраўды, гэты дэфіцыт існуе і складае для ФРГ — 85 мільёнаў дол., для Італіі — 47 мільёнаў дол., а для Францыі — 40 мільёнаў долараў. Па-сутнасці, аднак, гэтыя прычыны мелі другараднае значэнне, таму што гандлёвы дэфіцыт «шасцёркі» выраўноўваецца і то яшчэ з дабаўкай дадатнім плацёжным сальдам, выступаючым паміж гэтымі дзяржавамі і ЗША.

У «курынай вайне», якую распачала Францыя, ідзе аб іншыя прычыны, чымсьці гаспадарчыя. Дамагаючыся павышэння пошлін на імпарт птушкі, што ў практыцы спыняе закупку амерыканскіх курыц, Францыя хацела задакументаваць сваю і заходнееўрапейскую незалежнасць ад ЗША, а таксама стварыць больш выгадныя ўмовы для развіцця ўласнай сельскай гаспадаркі, якая можа зараз разлічваць на шырокі экспарт тавараў перш за ўсё ў ФРГ.

Трэба прызнаць, што гэты крок Францыі, ці як зараз гаворыцца — цэлай «шасцёркі» — быў меткім выстралам у амерыканцаў і таму нічога дзіўнага, што гэта выклікала іх раз'юшанасць. Хаця ЗША і экспартуюць толькі 4% сваёй агульнай прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, то, аднак, трэба памятаць, што продаж сельскагаспадарчых прадуктаў у Заходняй Еўропе прыносіць ім сур'ёзную суму — 1,2 мільярда долараў. Апрача гэтага ЗША ўжо некалькі год маюць усё ўзрастаючы дэфіцыт плацёжнага балансу, што ў практыцы вядзе да няспыннага змяншэння запасаў золата.

Дзе прычына шпаркага ўцёку амерыканскай валюты, што і выклікае няспынны бюджэтны дэфіцыт? Перш за ўсё гэта з'яўляецца вынікам павялічваючыхся расходаў на збраенні і вайсковую дапамогу для рада дзяржаў. Хопіць толькі сказаць, што ў мінулым годзе амерыканская дапамога для заграніцы паглынула 4,3 мільярда долараў. Амерыканскія гаспадарчыя эксперты сцвярджаюць, што трэба недзе знайсці штогод 7 мільярдаў долараў, каб зварухнуць з месца скастнелую гаспадарку ЗША.

Адкуль возьмуцца гэтыя грошы, каб зраўнаважыць бюджэт і плацёжны баланс? — Перад усім, — адзначаюць эксперты, — трэба больш развіць замежны гандаль. Прапанова правільная, толькі што рашэнне Еўрапейскага Эканамічнага садружаства па пытанню аб павышэнні пошлін перакрэслівае планы і надзеі амерыканцаў. Тут і крыніца злосці фермераў і цэлай адміністрацыі Кенедзі.

— Не хочаце ўжо нашых курыц, — сказаў нядаўна міністр сельскай гаспадаркі ЗША Фрэман да сваіх заходнееўрапейскіх саюзнікаў, — дык мы спынім імпарт вашых самаходаў.

Прэзідэнт Кенедзі нават пайшоў далей і прадказаў абнародваць спісак тавараў, імпартаваных з Еўрапейскага садружаства, якія не будуць падлягаць тарыфным ільготам. «Курыная вайна» прыспешыла таксама гаспадарчую канферэнцыю ў Белым доме. Павінна яна ацаніць сукупнасць адносін ЗША з заходнееўрапейскімі партнёрамі. Усё яшчэ не вядома, які будзе яе канчатковы вынік. Адна справа не падлягае сумненню: «курыная вайна» дала доказы, што гаспадарчыя супярэчнасці штораз больш дамінуюць ва ўяўна толькі аб'яднаным «заходнім свеце».

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## Буракам шырокая дарога

(Працяг са стар.1)

Бурак патрабуе багатага ўгнаення. Са штучным угнаеннем сёлета было, як вядома, шмат клопатаў. Яго не х...ала. Ці маеце нейкую магчымасць памагчы сялянам?

— Так. Хопіць толькі падпісаць кантрактацыйную ўмову, а цукроўня наша гарантуе штучнае ўгнаенне. Калі хто паспяшаецца з афармленнем умовы, мае магчымасць атрымаць угнаенні яшчэ восенню.

— Праца пры бураках цяжкая, яна паглынае шмат часу, а машын пакуль што няма.

— Гэта праўда. Але пастанова, аб якой гаворым, забавязвае Міністэрства цяжкай прамысловасці да развіцця і пашырэння прадукцыі машын і прыладаў аблягчаючых працу сялян пры вырошчванні буракоў. На гэта ў наступным годзе прызначаецца 100 мільёнаў злотых, а ў 1965 годзе — ужо 183 мільёны злотых. Штогод прызначаецца па 60 мільёнаў на пазыкі для сялян, якія захацелі б купіць сабе адпаведныя машыны і прылады патрэбныя пры вырошчванні буракоў. Ад гэтых пазык не будзе брацца зусім працэнтаў.

— Відаць тады, што буракам сапраўды адкрыта шырокую дарогу на сялянскія палі.

— Несумненна, так. Карысці, якіх мала дзе. Толькі трэба іх дакладна растлумачыць сялянам. Вялікае тут заданне для аграномаў і цэлай арміі працаўнікоў, якія займаюцца кантрактацыяй буракоў.

Гутарыў: **В. РУДЧЫК**




## Які будзе музей?

З вялікім захапленнем чытаем словы звароту Прэзідыум БГКТ адносна зборкі экспанатаў у музей імя Кастуся Каліноўскага. Ды як жа інакш можа быць. Справа, якая хвалявала большую частку членаў і сімпатыкаў БКГК, пачынае ўжо ажыццяўляцца.

Нарэшце будзем мець музей, музей К. Каліноўскага, імя той гістарычнай постаці, якая з гордасцю вымаўляецца кожным беларусам. І добра дзеецца, што гэта ажыццяўляецца ў сотую гадавіну яго смерці, якую будзем адзначаць у сакавіку 1964 года. Таму музей станецца добрым помнікам нашаму нацыянальнаму багатыру, які аддаў сваё жыццё за справу свайго народа.

Чытаючы зварот Прэзідыум БГКТ, усведамляем сабе, што гэты музей будзе мець этнаграфічны характар, аб гэтым можна меркаваць з экспанатаў, якія будуць збірацца. Зважаючы аднак, што сама назва музея гаворыць аб чымсьці большым, ён будзе мець імя Кастуся Каліноўскага — гэта значыць гістарычнай постаці, і таму арганізатары гэтага мерапрыемства павінны разважыць, што гэтая справа патрабуе ад нас крыху больш, чымсьці этнаграфіі, яна будзе закранаць крыху і гісторыю. Павінна назва поўнасцю адпавядаць яго зместу, а гэта магло стацца, калі б у ім было месца на невялікую гістарычную дзялянку, ілюструючую прынамсі жыццё Кастуся Каліноўскага.

Праўда, усё гэта звязана з сур'ёзнымі коштамі, але нельга даказваць, што гістарычная дзялянка музея будзе больш

(Працяг на стар. 7)

## Спорт

Нуда, нуда і раптам не ведаем, што выбраць: аэрадром, галю Ягелёніі, стадыён? Гэта па-беластоцку. Значыць — не чакай перамен. Цягнуў і IX самалётны чэмпіянат Польшчы, які сёлета адбыўся, менавіта тут, маніў баксёрскі матч, цікава было таксама пабыць і на стадыёнах, дзе шмат было спартыўных мерапрыемстваў. А ў звыш-стотысячным горадзе так павінна быць заўсёды, не толькі ў «вялікае свята». Але гэта ўжо іншая справа. А што ў спартыўных выніках? Баксёры беластоцкай Гвардыі, выйграўшы з альштынякамі, паважна наблізіліся да варот II лігі. Трапіць у іх цяпер, апрача беластачан, мае толькі тэарэтычна шанцы варшаўская Паланія. Спадзяемся, што беластачане не праспяць аказіі. А ўсё магчыма.

На футбольным фронце не малыя сенсацыі. Абмалоджаная зборная краіны 9:0 абыйграла зборную Нарвегіі. Гэта рэкордны вынік. Адзін з сёлеташніх аўтсайдэраў I лігі Рух атрымаў перамогу над лідэрам Гурнікам Забжэ. З гэтага скарыстаў навічок Шамберкі, які зноў выйшаў на першае месца. З няўдачы лідэра скарыстаў і навічок II лігі, нашумеўшая Люблінянка, якая таксама заняла пакінутую раней першую пазіцыю. Урэшце змяніўся і лідэр беластоцкай лігі. Аказваецца, не трэба было чакаць на гэта да непасрэднай сустрэчы нурэцкіх гусараў з Мазурам. Нурэц здаў свае пазіцыі ўжо ў Чорнай Беластоцкай, дабіўшыся там у Скры толькі нічыёй. На гэта чакалі элчане. Разграміўшы 8:0 бельскі Тур, яны ўпэўнена выйшлі перад гусараў.

У мінулым тыдні мы пісалі аб свяце беларускіх балельшчыкаў. Было яно нядоўгім. Пасля бліскучай перамогі мінскіх дынамаўцаў над небяспечным Нафтавіком, прыйшоў пройгрыш 0:2 ташкенцкаму Пахтакору, які займае апошняе месца і нічыя з ленінградскімі аднаклубнікамі, якія займаюць перадапошняе месца. Беларусы спалі з пятага на шостае месца.

**Аут**

## Хроніка

■ 8 верасня ў Варшаве адбыліся цэнтральныя дажынкі. Гаспадаром дажынак быў I-шы сакратар ЦК ПАРП — Уладзіслаў Гамулка. Каля 40 тысяч сялян, якія прыехалі на дажынкі, выслухалі прамову Ул. Гамулкі. Беласточчыну на дажынках рэпрэзентавала каля 2500 сялян.

■ 7 верасня працоўныя краіны адзначылі «Дзень чыгуначніка». У Беластоку адбылася ўрачыстая акадэмія, на якой прысутнічаў намеснік міністра камунікацыі — Ян Рустэцкі. 70 чыгуначнікаў Беласточчыны атрымалі адзнакі перадавога чыгуначніка.

■ 3 верасня наведаў Беласточчыну намеснік прэм'ер міністра ПНР — Стэфан Ігнар. Ён пазнаёміўся з водна-меліярацыйнымі аб'ектамі Беласточчыны.

■ 5 верасня ў Беластоку пабываў міністр сувязі ПНР — Зыгмунт Москва і наведаў будову пункта тэлебачання ў Крыніцах.

■ Ад 3-га да 5-га верасня выступаў у Беластоку славуты Цэйлонскі балет. Цэйлонскія народныя танцы захапілі жыхароў Беластока.

■ 3 верасня ў Беластоку пры вуліцы Сухэй адкрыта новую школу тысячагоддзя. Гэта трэцяя ў Беластоку і 24 у ваяводстве школа-помнік тысячагоддзя нашай краіны.

■ 5 верасня ў вёсцы Уснар на Сакольшчыне выбух пажар. У пагашэнні яго прыняла ўдзел каманда пажарнікаў з тэрыторыі Беларускай ССР, якая пераехала дзяржаўную граніцу, каб дапамагчы суседзям у няшчасці. Быў гэта першы выпадак такога супрацоўніцтва ў гісторыі нашага пажарніцтва.

■ 6 верасня прыехалі ў Беласток прадстаўнікі Балгарскага кінафільма. Яны сустрэліся з жыхарамі горада ў кіно «Сырэна», дзе пачалася дэманстрацыя балгарскага кінафільма «Бедная вуліца».




Яшчэ праз тры дні ў берлінскім кабінеце генерала Зейферта раздаўся званок гарадскога тэлефона.

Генерал зняў трубку, назваў сябе.

— Пане генерал, з вамі гаворыць Карл Айпель.

— Айпель? Вы ў Берліне?

— Так, пане генерал.

— Што здарылася?

— Нам неабходна як найхутчэй сустрэцца.

— Дзе вы цяпер?

— На скрыжаванні Унтэр-дэн-Ліндэн і Фрыдрыхштрасе.

— Чакайце мяне там.

— Зразумеў, пане генерал.

— Хвілінку!.. Але як я вас пазнаю?

— Не хвалюйцеся, я падыйду.

243

Павесіўшы трубку, Аскер выйшаў з тэлефоннай будкі, пахадзіў па тратуары, спыніўся каля афішнай тумбы.

Неўзабаве каля тратуара прытармазіў аўтамабіль. За рулём сядзеў самавіты мужчына ў цывільным. Аскер адзначыў дарагі зграбны капялюш, выгалены твар, белы крахмальны каўнерык, пярсцёнак з каменем.

У сваю чаргу Зейферт аглядзеў стаячага на тратуары чалавека. Той быў у акулярах з жаўтаватымі шкламі. Кароткі пінжак і нагавіцы гольф падкрэслівалі лініі яго моцнага, добра развітага цела. На галаве сядзеў зялёны аўстрыйскі капялюш з куртатымі, быццам абкусанымі палямі.

Яны сустрэліся вачыма, Зейферт прыкрануўся да кнопкі сігнала. Аскер шагнуў наперад, дзверцы аўтамабіля адчыніліся, і ён аказаўся на сядзенні, побач з эсэсаўскім генералам.

— Ну, — сказаў Зейферт, калі машына выбралася на сярэдзіну вуліцы, — ну, слухаю вас, пане...

—Айпель, — падказаў Аскер.

— Так, пане Айпель. Дык што ў вас здарылася?

Аскер расчыніў бумажнік, выняў абломак грабянца і падняў так, каб Зейферт мог яго разглядзець, не адрываючы ад дарогі вачэй.

Генерал выцягнуў з жылетнай кішэні другую частку пароля.

— Упарадку, — сказаў ён, упэўніўшыся, што часткі грабянца зышліся. — Але навошта вы прыехалі? Сунуцца проста ў Берлін!...

— Я не мог інакш.

244

— Што ж здарылася? — у голасе Зейферта гучала злосць.

— Я б на край свету дастаўся, калі б гэта памагло захаваць тайнік і архівы.

— Захаваць тайнік? Што ўсё гэта значыць?

— Дзіўна. — Аскер злосна рухнуў плячом. — Быццам вы не ведаеце, што Карлслуст бамбяць!

— Што такое? — Зейферт усім корпусам павярнуўся да субяседніка. — Што вы сказалі?

— Бамбяць, — паўтарыў Аскер. — За тры дні было тры налёты.

— Не можа быць!

Цяпер быў здзіўлены Аскер.

— Вы сапраўды не ведаеце аб гэтым? — спытаў ён.

— Вядома, не. З групенфюрэрам Упіцам мы былі ў ад'ездзе, далёка адсюль, на ўсходзе, вярнуліся гэтай ноччу. Але, мой Бог, хто ж бамбіць Карлслуст?

— Рускія.

Зейферт прысвіснуў.

— Думаеце, намацваюць?

— Упэўнены.

— Чакайце, чакайце. — Зейферт скурчыў плечы. — Усё гэта цалкам неpraўдападобна!..

— Што ж, я магу і памыліцца. — Аскер дастаў з кішэні і разгарнуў карту Карлслуста. — Мяркуйце самі. Сінім абазначаны аб'екты, якія бамбілі пры першым налёце, пазаўчора. Карычневая штрыхоўка — вынік учарашняга налёту. Чырвоным адзна-

245

# СВЯТА ЎРАДЖАЮ

Згодна са шматгадовым звычаем 1 верасня адбыліся ў Беластоку Ваяводскія дажынкі. Асноўныя дажынкавыя ўрачыстасці праходзілі на гарадскім стадыёне ў парку «Звяжынец». Сабралася тут тысячы людзей — сялян і жыхароў Беластока.

На ганаровай трыбуне побач старасты дажынак, старшыні перадавога сельгасгуртка з Пянькоў (Беластоцкі павет), тав. Янкі Азяблы, члены экзекутывы Ваяводскага Камітэта ПАРП на чале з паслом Аркадзем Лашэвічам, Прэзідыум ВРН са старшынёй Стэфанам Жмійкам і прадстаўнікі Ваяводскага праўлення Саюза Сельскагаспадарчых гурткоў з Язэпам Родзікам, прадстаўнікі іншых устаноў і прадпрыемстваў.

Пасля ўрачыстасцей на стадыёне сяляне, прыбыўшыя на дажынкі, маглі паглядзець багатую мастацкую частку. Між іншым выступала «Лявоніха».

Каго не цікавілі песні і танцы, мог пазнаёміцца з экспанатамі сельскагаспадарчай выстаўкі. На выстаўцы паказваліся найлепшыя дасягненні сялян Беласточчыны ў вырошчванні розных сельскагаспадарчых культур. Найбольш аднак месца займала сучасная сельскагаспадарчая тэхніка. Тут можна было пераканацца, што сапраўды ёсць магчымасці для таго, каб аблегчыць працу сялян, каб зрабіць яе больш прадуктыўнай.

(вр)

# ПАМІЖ БУРАМІ НЯМА ЗГОДЫ

КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ

Сем'яў з прозвішчам Бура шмат у бандароўскай аколіцы. Пэўна, будзе з пятнаццаць год таму назад, калі пазлавалі між сабою двух Бураў — Сцяпан з Іванам.

Усяму вінаваты склеп — звычайны, мураваны склеп, якіх многа цяпер тут. Даўным — даўно пабудаваў яго Іван, калі яшчэ і пра цэмент мала хто ведаў.

— Не думайце, сем кароў каштаваў склеп!

Сем ці шэсць, а мо' пяць кароў — няважна. Досыць, што пару год перад вайною рашыўся ён перабудавацца на другі пляц — на калонію, як гавораць гаспадары. Падпісаўся, што зробіць гэта на працягу трох год; падпісаўся, што пасля гэтакага тэрміну незабраныя будынкі пяройдуць на ўласнасць новаму гаспадару — Сцяпану.

Іван перабудаваўся пасля вайны, але склеп пакінуў на старым месцы.

— Дакуль будзе стаяць гэта завада? — крактаў Сцяпан.

— Забярэм, ну, забярэм...

Іван любіць падысці чалавека, залагодзіць справу. Раз яблык падкіне Сцяпану, другі раз яшчэ якой-лень гародніны не пашкадуе і няшчасная размова заціхала. Добра жыць у згодзе беднаму Сцяпану з багатым Іванам...

Іван не спяшаючы ссыпаў бульбу, прыкрываў ад марозу, і з іроніяй паглядаў на суседаў мізэрны склепік, што ледзь выстае з-над зямлі.

Мір трываў да пары. Людзі шэпчуць, пасмейваюцца:

— Эгэ, Сцяпан! Гэта тваё... нашто чакаеш?! — Займай і кропка! — Не ўступай!!

Пачуўшы такое Іван мамантальна змяніў спосабы. Прыкрыкнуў на Сцяпана:

— Чаго, ну, хочаш? То ж склеп на маёй бацькаўшчыне стаіць!

Іванаў сын, Пятро, замахаў сякераю:

— Ану, лезь!..

Іван з Пятром ведалі, што гавораць; відаць, спадзяваліся, што тая перадваенная распіска загінула недзе ў час ваеннай завірухі. Напэўна! І таму былі здзіўлены, калі аказалася, што пералічыліся. Сцяпан адшукаў гэты дакумент у беластоцкіх архівах і сам не спадзяваючыся благога, даў пачатак праўдзівай буры.

Адн'аго разу паявіўся міхалоўскі камендант Лапінскі:

— Чаму не дазваляеце Івану выбраць бульбы са склепу? Ён усыпаў — ён павінен браць!

Не паспеў Сцяпан здагадацца, якая хітрасць крыецца за ўсім тым, як прыводзіць Іван у склеп двух чалавек з Багнюкоў: Міхася Грыку і Сцяпана Чабана.

— Глядзіце, як пагніла, ну, мая бульба! Глядзіце! Пасаліў, хам, бульбу! Паса-ліў!!...

— Малога мяне бачыш!? — затросся Сцяпан.

Незадоўга паехалі ўсе на суд у справе пасоленай бульбы. Іван атакаваў з разгарам:

— Высокі Суд! Прапала бульба — многа прапала бульбы — семдзесят метраў прапала бульбы...

Багнюцкія сведкі тапталіся з нагі на нагу і цвярдзілі, што фактычна, не дагледзеўшы маразамі кожны можа намарнаваць сабе бульбы, а Сцяпан ухапіўся за адзіны ратунак:

— Раз пасоленая бульба, дык трэба яе пакаштаваць!

Сцяпан паціснуў плячыма і сказаў:

— Мы і самі ведаем гэта, паночку...

— Ну!

— ...Але ж ніхто тут не перашкаджае...

Міліцыянер пайшоў. Яго роля закончылася. — Справа выяснена!

Суддзя усміхнуўся. Іван хутка змяняе лінію атакі.

— Не дапусцілі мяне, пане, каб дагледзець бульбу, ну, акапаць.

— Якім чынам не дапусцілі?

— Плот паставілі.

Суддзя нецярпліва зірнуў на гадзіннік і сказаў:

— Маюць права!

Канец суда.

Насталі камедыі і суседзям, і ўсёй вёсачцы. Вось угледзіць Іван з Пятром, што ў Сцяпанавай хаце нікога няма, і давай крадком прабірацца да склепа. Адаб'юць парканіну — Пятрук лезе выпратаць яму, а Іван старажуе. Значыць задумалі зноў засыпаць асенні ўраджай. Аж сусед Уладзік (таксама Бура) кажа Сцяпану:

— Слухайце, Іван мерыў тычкаю ваш гародчык...

— Нашто?

Так і не даведаўся Сцяпан толкам, ча...о спадзявацца? Зваліла яго цяжкая хвароба. Памёр. Павестку на новы суд квітаваў ужо яго сын, Мікалай. Ён пераняў на сябе бацькава змаганне за склеп — ездзіў да адваката, які за праданую кароўку ўзяўся бараніць іхняй рацыі.

Тым разам Іван захацеў выкупіць пляц пад склепам! Кошт ірундовы, некалькі злотых... Спыталі яго:

— У склеп не будзеце вазіць бульбы самалётам?

— Не, ну, праз гародчык...

— Ага...

Суддзя Скваркоўскі стрымоўваў нервы, як толькі мог. Прасіў ласкаю:

— Пагадзіцеся, людкове.

— Чаму не, можам, — адказвае Мікалай.

— Добра! — забубніў Іван. — Няхай адкупляе аб'ект за 150 тысяч злотых (у старой валюце).

— Ну - й упарты вы, пане Бура, — уздыхнуў Скваркоўскі.

Іван на некаторы час перастаў судзіцца. Ці пераняўся ён словамі суддзі, ці расчараваўся тым, што нічога не мог высудзіць — невядома. Даволі таго, што як бы абціх і стала спакайней. Тады Мікалай рашыў, што пара карыстацца склепам. Але як, калі Іван не скінуў замка? Падыйшоў да солтыса Ёзіка Прылажынскага, а той клікнуў Івана.

— Чаго, ну, хочаш?

Мікалай пабялеў.

— Не ведаеце, чаго я хачу!?

— Твой тата разумнейшым быў, ды не даў рады скінуць і ты не скінеш, смаркач!

Вось цэлая гутарка.

Мікалай зашчаміў зубы і прыняўся будаваць сабе навюткага склепа — побач, паўкрока далей. Выкапаў яму — пападоўб кіркаю, бо якраз гліна папалася.

— Капай, капай, дурню.

Мікалай не цярпеў сівога Івана; бег прэч ад ягоных пасмешак.

— Будуй, будуй, здыхляку.

Пасярэдзіне вёскі расце ліпа, куды вясною і летам зыходзіцца народ на пагаворкі.

— Пастой, ну, пагаворым, — перапыніў Іван Мікалая.

— Няма калі...

— Паслухай, хачу разабраць склеп...

— Бяры, — аскаліўся Мікалай. — Вярні кошты судоў, кошты падаткаў за гэту зямлю, на якой стаіць склеп, і можаш яго забіраць.

— Го, які разумны!... Павалок дзед Іван у суд Кольку, а там запыталі:

— Чаго зноў трэба вам, пане Яне?

(Працяг на стар. 4)



Хлеб і соль нясе староста дажынак Янка Азябла. Побач яго І-шы сакратар Ваяводскага Камітэта ПАРП тав. Аркадзь Лашэвіч (злева), старшыня Прэзідыума ВРН Стэфан Жмійка (справа) і старшыня ваяводскага праўлення Саюза сельскагаспадарчых гурткоў Язэп Родзік.

Фота З. Зарэмба

чана тое, што савецкія самалёты апрацоўвалі сёння перад світаннем.

Зейферт прытармазіў, паглядзеў на карту. Ужо з першага позірку было ясна, што раён бамбёжкі памалу, але настойліва набліжаецца да лесу на беразе Эльбы, ля моста, дзе разыходзяцца дарогі.

— Ну? — Аскер зложыў карту.

Генерал не адказаў.

— Шэф раз'юшаны, — сказаў Аскер.

— Ён ужо ведае?

— Яму паведамлена яшчэ ўчора.

— Што ж рабіць?

— Не ведаю. — Аскер вытрымаў паўзу. — Адно ясна: калі рускія будуць працягваць такімі ж тэмпамі, то дзён праз пяць—шэсць дабяруцца да сховішча. Тады архівы ўзляцяць у паветра.

Аскер змоўк. Маўчаў і Зейферт. Прайшло некалькі мінут. Аўтамабіль павярнуў на нейкую вуліцу, затым зрабіў другі зварот і паехаў назад.

— Мне трэба ва ўпраўленне, — сказаў генерал.

— Але мы ж нічога не вырашылі.

— Сустрэнемся вечарам. У дзевяць гадзіць, на тым самым месцы.

*

Вечарам Зейферт прыбыў на месца сустрэчы ў вызначаны час. У машыне быў яшчэ адзін чалавек.

— Пазнаёмцеся, — сказаў генерал. — Гэта групенфюрэр Упіц. Ён будзе кіраваць перавозкай архіваў у новае сховішча.

Аскер на момант прыплюшчыў павекі, хаваючы загарэўшыя ў вачах агеньчыкі.

246

Ён ведаў: цяпер, амаль за семсот кіламетраў адсюль, па той бок фронта, у маленькім гарадку каля Варшавы, толькі што адбітым у фашыстаў, кіпіць падрыхтоўка да заключнага этапа аперацыі. У гарадок прыбываюць дзесяткі ўдзельнікаў аперацыі, на размешчаны непадалёку аэрадром сядаюць самалёты спецыяльнай службы. Там жа знаходзяцца кіраўнікі і старшыя таварышы Аскера — генерал Лыкаў і палкоўнік Рыбін. Усе яны рыхтуюцца прыйсці на дапамогу дзейнічаючым у Карлслусце разведчыкам, каб давесці да канца задуманае. Але ўсё акажацца дарэмным, калі Аскер і яго сябры не даб'юцца галоўнага — не заставяць фашыстаў эвакуіраваць карлслусцкі тайнік.

І што ж, здаецца, удалося!

— У новае сховішча? — перапытаў Аскер. — Пасля сустрэчы з вамі мне таксама прыйшла ў галаву гэтая думка. Што ж, думаю, шэф будзе задаволены. Але я баюся, што руская разведка можа перашкодзіць.

Ён стараўся гаварыць спакойна, але цяпер не пазнаваў уласнага голасу.

— Бамбардзіроўкі ў Карлслусце — работа рускай разведкі. — Зейферт уключыў перадачу і рушыў аўтамабіль.

— Не магу сабе ўсведаміць, навошта гэта рускім! — Аскер паціснуў плячыма. — Ім патрэбны архівы, але не папялішчы.

— Вядома, — усміхнуўся Упіц. — Але калі да архіваў немагчыма дабрацца, іх лепш знішчыць, чым аддаць праціўніку.

247

— Вось яно што, — працягнуў Аскер.

—У вас будзе сувязь з Тэдарам? — спытаў Зейферт.

— Так, раніцай.

— Можаце перадаць: Упіц выязджае ў Карлслуст. Туды ж выклікана калона.

— Калі?

— Буду там заўтра, у другой палавіне дня, — сказаў групенфюрэр.

— А калона?

— Прыедзе пазней, ноччу.

— Грузавікі?

— Так. Рускія разбамбілі чыгунку, знішчылі два масты, так што нічога іншага не застаецца.

— У Карлслусце гаражы разбіты. Адкуль жа машыны?

— Вы надта цікавыя! — Зейферт панура агледзеў субяседніка.

—Такая ўжо мая прафесія, — Аскер уздыхнуў.

— Калона выклікана з Гамбурга, — сказаў Упіц.

— Вось цяпер можна гаварыць з шэфам. — Аскер выцер лоб.

— Перадайце, што паслязаўтра на світанні архівы будуць у бяспечным месцы.

Хутка машына спынілася. Аскер вылез.

— Бывайце, — сказаў ён. І, звяртаючыся да Упіца, дадаў: — Магчыма, мне давядзецца адведаць вас заўтра, у Карлслусце. Як вас знайсці?

— Званіце дзяжурнаму па абверу. Ён будзе ведаць.

(Працяг за тыдзень)

248

 

# ІХ СВЕТЛАЯ ШКОЛА

**(3 ВЕРАСНЯ Ў ЛУПЛЯНЦЫ)**

**Сярод шэрасці вясковых аднародных хат гэты будынак выглядае як казачны палац, што залатая рыбка сваёй сілай выкінула з дна мора. Толькі не для злой ненасытнай старухі ён. А для вялікавочых, загарэлых на лугах і палях, белабрысых (у 99%) дзяцей з Луплянкі. Таксама для іх настаўнікаў. Гэта новая школа. Здалёк вабіць яна беласцю сцен і запахам свежай фарбы. Раннее і скупое сонца іграе на яе ясных сценах, адбіваецца ў шматлікіх вокнах.**



**Дзверы новай школы адкрыты. Уваходзім...**

**Вітай школа! — верш у выкананні дзяцей гучыць тым актуальней, што вітаюць яны новую школу.**

**Вароты новага школьнага пляца адкрыты. Настаўнікі вітаюць цябе сардэчна. За плячыма горба дзяцей, якія тут мабыць ад світання — кожны хоча сабе выбраць найлепшую лаўку. Абголеныя галоўкі хлопцаў, як макаўкі. Без валасоў выглядаюць неяк большыя. Міжвольна пралятае думка — разумныя, мо' будучыя вынаходцы, вучоныя. Сонечны зайчык бегае і па тварах настаўнікаў. Заўважаю; пасля канікул і як бы змучаныя. Потым размаўляем і я пачынаю разумець: для іх канікулы былі за**канчэннем будовы школы, падрыхтоўкай увайсці ў яе парогі — для іх не было канікул, была работа і клопаты, але цяпер як гаспадары вітаюць тут кожнага прыбыўшага, вітаюць так, што адразу чуешся добра, свабодна і сярод сваіх.

«Якую вы маеце праграму», — пытае мяне кіраўнік школы? Не ведаю, што казаць. Праграмы я не маю. Прыехала да іх паглядзець, пазнаёміцца, пабыць гадзіну - дзве ў атмасферы радасці, надзеі і духмянага паветра. Глянуць на лес, што сцяной стаіць у даліне. Нават на гэтую лінію высокага напружання насупраць школы. Кажу: я напішу пра ўсё ў «Ніве», прачытаеце. (Школа выпісвала ў мінулым годзе 30 «Ніў»).

На ўрачыстасць адкрыцця новай школы ў Старой Луплянцы маюць прыйсці дзеці з настаўнікамі з Шымак. Чакаем на іх. І вось на пляц уязджаюць веласіпедысты — маса веласіпедыстаў, не бяруся лічыць. Абстаўляюць імі загарадзь. Мяшаюцца з луплянскімі дзяцьмі, частуюцца грушамі і яблыкамі з кішэняў. Уваходзіць другая група — пешых і пачынаецца доўгачаканая ўрачыстасць. Кіраўнік з Луплянкі — Міхал Рыгаровіч вітае ўсіх. Потым са збітага натоўпу дзяцей выныраюць, як русалкі з ляснога гушчару, дзяўчынкі з букетамі. Адзін з іх дастаецца мне. Не скрываю, хвіліна надзвычай мне прыемная. З удзячнасцю падумала аб чорнавалосай прыгожай настаўніцы польскай мовы, якая, як сарыентавалася, была галоўным стваральнікам такіх хвілін.

Намеснік старшыні Прэзідыум ПРН у Беластоку выступае з урачыстай прамовай, а потым перарэзвае бела-чырвоную стужку на дзвярах школы. Бразг ключа і дзверы адкрыты.



**А вось і яны — школьны аркестр: сядзяць — мандаліністы, стаяць — перкусісты.**

Дзверы школы адкрыты! Абстрыжаныя галоўкі хлопцаў і дзяўчаткі з касічкамі — вясковыя дзеці штурмам пхаюцца ў гэтыя дзверы. Сімвал, метафара? І адно, і другое. І трэцяе — р э ч а і с н а с ц ь.

У абшырным калідоры слухаем выступленні аркестра мандаліністаў пры акампаніяменце дзіцячай перкусіі. Кіраўнік перапрашае за памылкі, бо толькі на канікулах сарганізаваў ён гэты аркестр і мала яшчэ вучацца. Але нам падабаўся. Таксама як вершы і песні дзяцей.

Рэдактар «Зоркі» (быў у Луплянцы разам) не стрымаў — прыпамінае пра сябе: прыедзьце ў Беласток, пакажам як робіцца «Зорка».

І час растацца. Не хочацца, ды трэба. Усяго найлепшага ў новай школе!

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

**Фота УЛ. ПАЎЛЮЧУК**



**З увагай слухаем выступленняў школьнікаў.**

**СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ**

# Залатыя расліны

Залатыя расліны? Якія? Звычайныя, такія, якія ведае кожны селянін. Залатыя, таму што даюць найбольш залатовак, дзесяткі тысяч залатовак з гектара. Дык вось: алеістыя, лён і каноплі, цукровыя буракі, экспартовая бульба, тытунь. Гэтыя расліны найбольш рэнтабельныя.

— Што дае найбольшыя даходы? — пытаюць сяляне.

Прадстаўнікі Мазурскай фабрыкі тытуню паінфармуюць, што, зразумела, тытунь. Спецыялісты з цукроўні «Соколуў» будуць заклінацца, што буракі і толькі буракі. Працаўнікі Цэнтралі насеннай гатовыя «даць руку», што бульба-саджанцы, бо гэта экспарт, дэвізы, бо гэта да Бразіліі, Чылі і г.д.

**Скажам адкрыта: усё з'яўляецца рэнтабельным, рэч ідзе толькі пра ўзровень вырошчвання, прымяненне механізацыі і хіміі, пра высокі ўраджай. Такія цукровыя буракі дадуць таксама 30—40 тыс. зл. з гектара, але пры ўраджаі, які дасць 450 ц.**

**Варта бліжэй пазнаёміцца з гэтай праблемай. Ёсць жа перыяд, калі падпісваецца кантрактацыйныя ўмовы і рыхтуецца зямлю пад прамысловыя расліны.**

**Цукровы бурак на Беласточчыне мае вельмі добрыя глебавыя і кліматычныя ўмовы. Няма ў нас праблемы т.зв. вырачэння глебы, няма «наязду» шкоднікаў, як у іншых раёнах краіны, а ўмеласці вырошчвання ў шматлікіх плантатараў з'яўляюцца ўжо на даволі высокім узроўні. На жаль, план кантрактацыі ў 1962/63 годзе быў выкананы толькі ў 69%. Бурак зрабіўся менш атракцыйным.**

**Апошнія пастановы сур'ёзна змянілі рэнтабельнасць вырошчвання бурака на карысць плантатара. Ёсць тады надзея, што сёлеташні план, які выносіць 1250 га, будзе выкананы. Будзем мець вялікую колькасць сыравіны для прамысловасці, а таксама корму на кішонкі (лісце).**

**Ужо час падумаць аб падрыхтоўцы глебы на цукровыя буракі і іншыя прамысловыя расліны. Іх патрабаванні, хаця даволі розныя, маюць шмат супольных прыкмет. Адносіцца гэта асабліва да палявых работ, якія праводзяцца восенню.**

**Алеістыя найлепш растуць пасля акаповых на гнаі, пасля канюшыны, люцэрны і мяшанках. Лён вырошчваем пасля акаповых, а каноплі — нават збожжавых, але пасля прымянення вялікай колькасці штучнага ўгнаення (гной, гнаёўка, кампост). Цукровыя буракі патрабуюць гною (да 400 ц/га).**

**Восенню вывозім гной. Потым выконваем павярхоўнае ворыва (глебу пакідаем у вострай скібе). Часта восенню даем калійнае і фосфарнае ўгнаенне. Калі тады не далі гэтага ўгнаення, то, напрыклад, пад буракі вясною: 200 кг каліевай солі, 250 кг. суперфасфату, а таксама 300 кг азотнага ўгнаення (азотняк на даўжэйшы час перад пасевамі, салетра і салетшак — пасля пасеваў).**

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

**ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ**

# Неразумная цёшча і хітры заяц

Вострая цёшча, як тупая брытва і востры заяц, як голы біч! Гэтак іх у вёсцы называлі. Бардуніха, цёшча Кліма Незявайлы, была вельмі вострая языком, а тупая розумам. Як яна яшчэ была дзеўчынай, то яе пераступлілі на вуліцы сем сабак. І яна іх перамагла, бо мела востры язык.

А Клім хоць голы, але хітры і вяртлявы, як цыганскі біч.

Дачка Бардуноў была добрая і спакойная, як яе бацька, стары Зміцер Бардун.

Раз паехаў Клім на кірмаш. Вяртаючыся дамоў, бачыць — пром ля рэчкі зацумаваны. Захварэў гаспадар прому і не можна перабрацца на другі бок. Трэба ехаць на мост. А ён далёка. І галоўнае, трэба ехаць праз вёску пакрай хаты вострай цёшчы. Пастаяў Клім, пачухаўся. Нічога не парадзіш. Мус ехаць пакрай хаты цёшчы. Іншай дарогі няма. Павярнуўшы конікі, паехаў далей. Едзе і думае: што будзе, як цёшча ўбачыць яго і пачне распытваць пра дачку? Ох, ох! А можа яшчэ і да хаты завядзе? Ох, ох! Будзе ж мне тады, будзе.

Гэтак раздумваючы і охаючы і ў вёску ўехаў. Вось табе і на! Акурат і цёшчу нячысты выпер на вуліцу.

— Ага, зяціска мой валачэцца! Скуль гэта чорт нясе? — гукнула цёшча на Кліма. — Паварочвай каня на панадворак.

Паслухаў Клім, павярнуў на панадворак, развярнуўся, паставіў каня галавою да вуліцы і пайшоў за цёшчай у хату.

— Ну як там мая дачушка пажывае? — гукнула цёшча, увайшоўшы ў хату. — Чы ўсе выгоды мае?

— Ага, — адказвае Клім.

— Чы ні плача, ні гаруе?

— Ага.

— Чы да суседаў выбягае?

— Ага.

— Чы доўга спіць, чы можа надта рана ўстае?

— Ага.

— Чы смачна і тлуста есці мае?

— Ага.

Стаіць Клім, як салдат перад палкоўнікам і яму робіцца горача, нібы яго хто кіпятком абліў. А цёшча зноў пытае:

— Чы ты ёй рабіці памагаеш?

— Ага.

— Чы свіні корміш?

— Ага.

— Чы каровы доіш?

— Ага.

— Чы куры яец многа нанеслі?

— Ага.

— Чы яна яйцамі цешыцца?

— Ага.

Гэтак Клім адказваў на ўсе цёшчыны пытанні. А сам засмучаны.

— Чаго засмуціўся? — пытае цёшча.

Клім стаіць і нічога не адказвае.

— Можа з жонкай не спіш?

— Ага.

— Дакуль мне будзе гэтае «ага» ды «ага»! — як гукне цёшча і давай зяця то з левай то з правай кулачыць.

Зяць матаўся туды-сюды, пакуль у дзверы не выскачыў. Апынуўшыся на панадворку, чым хут-

(Працяг на стар. 7)



 

 




**З ЧЭШСКАГА**

**Міласлаў Швандрлік**

## ПА ШЧАСЦЕ

Начальнік пошты — Якоўбак, вяртаўся дамоў у дрэнным настроі. Чакае на яго млеўкі таматны соус і кіслая жонка.

— Жывем у гэтым Вжаляве, як катаржнікі, — скажа Галена. — Нічога не гавары. Калі б ты пастараўся, мог бы атрымаць працу ў Празе. Ці хочаш, каб у гэтай глушы я зусім змарнела?

Якоўбак увайшоў да хаты. Наперакор меркаванням яго не абвеяў запах млеўкага соусу. У хаце было пуста. На стале ляжаў ліст.

Мой дарагі!

Я створана да іншага жыцця. Таму выязджаю з Крабцам у Прагу. Ты ніколі не разумеў маёй прагі да жыцця ў вялікім горадзе. Прабач, што не патрапіла быць аддана жонкай.

Твая Галена

— Гэта ўжо канец, — зашаптаў Якоўбак.

— Што ж вартае жыццё без Галены?

Ён узяў вяроўку, сеў на веласіпед і паехаў у лес. Затрымаўся пры аграмаднай сасне і закінуў вяроўку на галіну. Пасля зрабіў пятлю і ўлажыў галаву.

— Што вы робіце?! — раптам пачуўся голас.

З карчоў выйшаў ляснік.

— Хачу пакончыць з сабою, — адказаў Якоўбак, ведаючы, што трагедыя не будзе да канца адыграна.

Ляснік развязаў вяроўку і завёў Якоўбка да леснічоўкі.

— Прывёў табе госця. — сказаў сваёй пульхненькай жонцы. — Дай яму гарбаты і не пашкадуй рому. Я бягу ў лес. Зраблю парадак з куніцай.

— Адкуль вы? — пацікавілася жанчына, калі за леснікам замкнуліся дзверы.

— З Вжалява, — кажа Якоўбак.

— Вжаляў, —уздыхнула жанчына, — там кіно.

— Ёсць такое.

— І фізкультурная зала?

— Ёсць і гэта.

— І калектыў мастацкай самадзейнасці?

— Зразумела

— Ох, даражэнькі мой, — шаптала жонка лесніка. — Шчаслівы з вас чалавек. Толькі вы, мабыць, не дацэньваеце свайго горада. Я, калі муж у лесе, уяўляю сабе, што жыву ў такім культурным цэнтры як Вжаляў. Што хаджу ў кіно. удзельнічаю ў мастацкай самадзейнасці і фізкультурнічаю. Вжаляў, гэта мара майго жыцця!

Калі ляснік вярнуўся дамоў з застрэленай куніцай, на стале знайшоў ліст.

Мой дарагі!

Я створана да іншага жыцця. Таму выязджаю з Якоўбцам да Вжалява. Ты ніколі не разумеў маёй прагі да культуры. Прабач, што не патрапіла быць аддачай жонкай.

Твая Марыя

## КУР'ЕЗЫ

**Дапамога ў прывітанні**

Як вядома, нядаўна прэзідэнт ЗША Кенедзі пабываў з афіцыйным візітам у Германскай Федэратыўнай Рэспубліцы.

— Сумняваюся, ці ўсе гэтыя лозунгі, флагі і флажкі, якія вось бачу, вывесілі ў мой гонар пасобныя сем'і па ўласнай ініцыятыве. Здаецца, што нехта ім у тым дапамог, — сказаў Кенедзі, звяртаючыся да Адэнауэра.

— Гэта праўда, — адказаў Адэнауэр, — але вывесілі яны іх спантанна. (а—вр)




**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

Па просьбе **Зінаіды Лебедзінскай** са Страшава і **Ніны Вакулы** з Меляшкоў, Беластоцкага павета, змяшчаем савецкую песню

## ЖДУ Я ТЕБЯ



В горных ущельях сверкают снега,
Звезды зажглись в окне,
Ветер уснул, и уснула тайга,
Только не спится мне.
Ветер уснул,
Только не спится мне.

Там, где над речкой чуть шепчет камыш,
Знаю, любимый мой,
Ты на посту у границы стоишь
Этой порой ночной.
Ты на посту
Этой порой ночной.

В комнате нашей над тихим столом
Лампы лучится круг.
Вновь я грущу над заветным письмом
Мой синеглазый друг.
Вновь я грущу,
Мой синеглазый друг.

Звезды мерцают в ночной вышине,
Жду я тебя давно.
Скоро ли друг мой, как прежде, ко мне
Ты постучишь в окно?
Скоро ли, друг,
Ты постучишь в окно?



— Вы хіба не нудзіцеся ў сваёй прафесіі?

## „Штатны" прамоўца

Аўдзея хлебам не кармі,
Не дай вады ў спякоту —
Дай пачасаць перад людзьмі
Язык яму ў ахвоту.

Каб сход збіраўся кожны дзень,
Ён будзе на трыбуне,
Ў любую справу наш Аўдзей
Свой пятачок усуне.

Яго разбудзіш уначы,
Ледзь вочы ён пралупіць —
І панясло, пачне таўчы
Аўдзей ваду у ступе.

— Пытанне ставім мы рабром...
Нам трэба... Мы павінны...
Абавязацельствы бяром...
На нас глядзіць краіна...

І вось аднойчы дзед Юстын
Спыніў яго прамовы:
— Скажы лепш, як працуеш ты!
Аўдзей... пык-мык — ні слова.

УЛ. ЗАХАРЭВІЧ

**ПРА ДУРНОТУ**

— Скажыце, добры чалавеча, ці дурасць з'яўляецца прычынай да разводу?

— Зразумела! А хіба што, ваша жонка дурная?

— Не! Я дурны, што з ёю ажаніўся.



— Ён непапраўны п'яніца, але я яго люблю!

## ЖЫВАЯ І МЁРТВАЯ ВАДА

Калі вас спытаюць, якое галоўнае дасягненне чалавецтва, адкажыце: асваенне агня, вынаходства кола і выдумка калодзежа. Без гэтых вынаходстваў нашы прабацькі сядзелі на мелі цывілізацыі.

Без агня не здараюцца пажары, і не было б пажарных каманд. Без колаў пажарнікі не даехалі б да падзей. А без калодзежа таксама камандзе рабіць няма чаго. Агонь не заплюеш.

Без вады няма жыцця ні камару, ні бульбе. Спадзяюся, чытачы зразумелі, чаму цікаўлюся калодзежамі.

Бываюць калодзежы шахтавыя, абложаныя дрэвам, або бетоннымі коламі. Бываюць трубчастыя, дзе помпай падаецца вада па трубах, і артэзійскія, якія бураць на вялікай глыбіні.

Кожны калодзеж мае свой характар. Некаторыя калодзежы частуюць нас вадой бесколернай, іншыя мутнай, а яшчэ іншыя — блакітнай. Дзені-дзе трапляецца вада салёная, у іншым месцы вада пахне чортам, а бывае і так, што п'ем мы вадзічку халодную і чыстую, бы з горнай крыніцы.

Цэняць ваду піўныя заводы, свідруюць глыбокія калодзежы, дабіраючыся да смачнай вады. Добрае піва з дрэннай вады не выходзіць, затое ў нас умеюць рабіць з добрай вады паскуднае піва.

Не толькі чалавек разбіраецца ў вадзе, каза яшчэ больш. Над дрэннай вадой каза памахае барадой, а піць не будзе. Перад калодзежам і горды чалавек схіляецца, інакш вадзіцы не зачэрпне.

Паспрабуйце раніцай адчыніць хлеў, кароўка з конікам дружна затаропяцца да калодзежа і на ўвесь голас запатрабуюць вады. Ды што тут гутарыць, нават курам і вераб'ям знаёмы наш калодзеж.

Выходзіць, што казачная жывая вада знаходзіцца ў нашым калодзежы.

У гарадах прадаюць ваду па цане малака. Літр садовай вады 2.20. Гараджан не зразумееш, адзін гаворыць — вада дарагая, іншыя цвердзяць, што малако таннае. Для доказаў сваёй праўдзівасці гавораць, што садовую ваду як не боўтаць, малака не зробіш.

Людзі добрыя, з жывой вадой мы пазнаёміліся, а аб мёртвай вадзе пісаць няма чаго. Стаіць мёртвая вада на вачах усіх у засургучаных бутэльках з белымі этыкеткамі.

Дзядзька Лявон



**НАЗБІРАЎ**

Жабрак: — Пашкадуйце беднага калеку, дайце пару грошыкаў на хлеб.

— Ці мо' на гарэлку?

— О не! На гарэлку я ўжо назбіраў.

## ДАВЕДАЎСЯ

Янка: — Каб ведалі, пане, што я ўжо іду ад вас са службы.

Пан: — О, а то чаму?

Янка: — Бо такі так!

Пан: — Мо' табе нешта ясна пані сказала?

Янка: — Не!

Пан: — Мо' табе нешта ясны паніч сказаў?

Янка: — Не!

Пан: — Мо' табе чымсьці ясна паненка дапекла?

Янка: — Не!

Пан: — Ну, а чаму ты нас пакідаеш?

Янка: — Бо такі ўжо надаела ў такіх паршывых паноў служыць!

**АДКУЛЬ УЗЯЛОСЯ ТРЫНАЦЦАТАЕ?**

Жылі сабе муж і жонка. Вырашылі яны вясной пасадзіць бульбу. Купілі дванаццаць вёдзер бульбы, скапалі пляцоўку і засадзілі яе.

Прыйшла восень. Пайшоў муж збіраць ураджай. Выкапаў усю бульбу, а тады стаў і чухае патыліцу.

—Што ты думаеш? — пытае жонка.

— Нічога не разумею, — адказвае муж. — Мы садзілі дванаццаць вёдзер бульбы, а я назбіраў аж трынаццаць. Адкуль жа ўзялося трынаццатае?

 